Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 16 (70) Нядзеля, 5-га Красавіка 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз.
Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## Насеньне царызму.

Дні два-тры назад у Варшаве скончыўся расейскі пэдагогічны зьезд. Бязумоўна ініцыятарамі гэтага зьезду зьяўляюцца не грамадзяне Польшчы расейцы, а прадстаўнікі тае эміграндкае масы расейцаў, якія знайшлі прытулішча ў Варшаве.

Ніхто ня можа пярэчыць самому праву расейцаў, як і ўсіх іншых няпольскіх нацыянальнасьцяў Польскай Рэспублікі, мець родную школу для сваіх дзяцей.

Але справа ў тым, што, дзякуючы нядаўняй вельмі мінуўшчыне расейскага ў нас панаваньня, справа самага разуменьня гэтае расейскасьці тут моцна заблутана.

Калі, напрыклад, расейцы пачнуць дамагацца свае школы ў якойнібудзь вёсцы горадзенскага вялейскага ці іншага павету, дык гэткае іхняе дамаганьне зьявіцца настолькі дзікім, што вытлумачыць гэта нічым немагчыма.

Аб расейскай нацыянальнай меншасьці ў Польшчы нельга гаварыць з гэткаю самаю сілай і вагаю, як аб беларускай, украінскай і навет літоўскай.

Рэальную прысутнасьць расейцаў у Польскай дзяржаве можна разглядаць, як прысутнасьць татараў, армян, грузінаў і інш.

Гэтыя апошнія народы прадстаўлены ў агульным ліку насяленьня Польшчы, як параскіданыя, найчасьцей па местах, адзінкі.

І намацваньне одгукаў расейскае культуры ў краі далёка яшчэ ня можа азначаць паважнае расейскае меншасьці дзе-нібудзь у сельскіх мясцовасьцях.

Ёсьць праўда сяляне старaверы — яны расейскае нацыянальнасьці і месца іхняга расьсяленьня проста б'е ў вочы ў постаці іхняе рэлігіі, маскоўскае мовы і звычаяў. Але-ж яны асобна стараюцца арганізавацца, як стараабрадцы і, гэткім чынам, будуць складаць з сябе асобна выражаную групу насяленьня.

Ніякая расейская меншасьць школьнымі законамі ў Польшчы ня прызнана і натуральна, што быўшага афіцэрства і ўсялякага іншага расейскага чынавенства мясцовага паходжаньня нельга прызнаць чыстакроўнымі маскалямі.

Было-б незразумела дзікай праявай, каб польская ўлада пазволіла русіфікацыю дзяцей беларускага сялянства толькі дзеля таго, што па сваёй цемнаце і старой нявольніцкай прывычцы сялянства гэтае згадзілася-б на школу расейскую, дзякуючы можа яшчэ й таму, што тэхнічна магчыма што й лягчэй аднавіць у нас расейскую школу, чымся залажыць беларускую, бо настаўнікаў з расейскаю кваліфікацыяй у нас легіён.

Праўда, большасьць быўшага народнага настаўніцтва, працаваўшага ў эпоху быўшае Расейскае Імпэрыі ў краі, зразумела сваю нацыянальную прыналежнасьць і ні ў якую расейскую школу сьвядома цяпер не пайдзе, хаця-бы школа гэтая і была пазволена, але старое насеньне русіфікацыі яшчэ ня зжыта і ёсьць праўдзівыя мужыцкія беларускія сынкі, з'асымілёваныя пры царызьме і захварэўшыя на велікарусаў.

Вось гэткі гатунак быўшага расейскага настаўніцтва, мабыць, і злажыў сабою тых 32 дэлегатаў з месцаў, гэта знач. з нашага краю, на варшаўскім зьезьдзе расейскіх настаўнікаў. Кіравалі імі эмігранты, якія, відаць, не саўсім яшчэ запомнілі пра архіўныя цяпер падручнікі расейскае географіі, не разумеючы таго, што ані „Привислинскаго", ані „Северо-Западнаго" краю даўно няма, як няма якой-нібудзь „С.-Петербурго-Варшавской" чугункі.

Расейшчына ў нашым краі — гэта прадукт як беларускае, так і польскае нацыянальнае няволі або рэзультат голае эміграцыі з сучаснага ССРР.

Як-жа ж на гэтым можна будаваць расейскую школу сярод нашага сялянства, маскоўскую няволю перажыўшага?

Даволі было нацыянальнага калецтва ў мінулым, і цяпер да яго дапусьціцца нельга. Расейская школа ў беларускай вёсцы цяпер была-б найстрашнейшаю ганьбай, на якую можа пайсьці толькі той, у кім дыхае яшчэ рэшта мінулага рабства.

Родная школа польскім правам нам загарантована. Мы павінны ўмець цьвёрда гэтае права сваё адстаяць. А на гэта беларусам непатрэбны ніякія расейскія пэдагогічныя зьезды. У рэспубліцы, якою зьяўляецца Польская Дзяржава, шмат якія нашыя справы залежаць і ад нас саміх.

І мы пэўны, што ніводзін сьвядомы беларускі селянін сваіх дзетак у расейскую школу не пашле, хоць-бы школа гэтая адтрымала фармальнае права на істнаваньне тут-жа ў яго пад бокам.

Тое быўшае расейскае чынавенства, якое навярбована было ў „расейцы" царскімі ўладамі можа ў гушчу свайго роднага народу і не вярнуцца. Можа яно сабе выхоўваць і патомкаў сваіх парасейску, але да гэтага насеньня царызму беларусам ніякага дзела й няма. Хай сабе яно для нашага народу будзе згубленым.

На далейшую русіфікацыю нашага сялянства ісьці нельга!

## Палітычны агляд.

Апошнія палітычныя падзеі ў Заходняй Эўропе ў зьвязку з нядаўна закончыўшайся сэсыяй Рады Лігі Народаў і нямецкімі прапазыцыямі датычна дагавору бясьпекі, нарабіўшымі гэтак многа шуму, адцягнулі на нейкі час увагу эўропэйскіх палітыкаў і прэсы ад ССРР, які ў гэтых падзеях ня мае ніякае ролі. А аднак у апошні час там былі здарэньні, аб якіх варта ўспамянуць; там ня ўсё добра, як з палітычнага, так і з эканамічнага боку.

Шмат дзе ў ССРР былі паважныя работніцкія і сялянскія разрухі на грунце дарагоўлі і голаду. Нядаўна ўвесь Урал быў агорнуты паўстаньнем рабочых. Таксама дайшло да крывавай разрухі ў Ленінградзе на грунце недахвату хлеба. Аб паасобных кутох провінцыі, адкуль весткі не пранікаюць на шырокі сьвет, няма што й казаць. Там сяляне палююць на камуністых, як на ваўкоў. Савецкія газэты часта пішуць аб забойствах камуністычных партыйных працаўнікоў г. зв. селькораў — сельскіх карэспандэнтаў савецкіх газэтаў, — якія ўзапраўды зьяўляюцца савецкімі агентамі на провінцыі.

Голад у ССРР даходзіць да страшэнных разьмераў і пачынае паважна беспакоіць савецкую ўладу. Бальшавікі ляпей за іншых ведаюць, якім небясьпечным аружжам у руках іх праціўнікаў зьяўляецца голад. Голад заўсёды папераджае дзяржаўныя перавароты. І ў Петраградзе ў 1917 г. повадам да рэвалюцыйных выступленьняў быў недахват хлеба, які быць можа быў выкліканы штучна. Палажэньне савецкай улады асабліва трагічнае дзеля таго, што ня відаць ніякага выхаду з утварыўшагася палажэньня. Савецкая прэса піша аб голадзе, аб сьмяротнай пагрозе для мільёнаў расейскіх дзяцей, стараючыся выклікаць спачуцьцё ў эўропэйскіх дзяржавах і ў Амэрыцы ды выцягнуць ад іх ахвары на карысьць галодных. Але цяпер усе глухія і нямыя на гэты кліч. Эўропа і Амэрыка была вельмі спачуваючай у 1921 г., калі ў ССРР быў голад з прычыны засухі ў прывалжанскім раёне. Але сёлета голад ў ССРР зьявіўся не ад кліматычных прычын, але ад шкоднай сыстэмы ўрадаваньня. У ССРР летась былі гэткія самыя кліматычныя варункі, як і ў нас. Апрача таго ў папярэднім годзе быў досіць добры ўраджай. А аднак у самых ураджайных мясцох, як напр. Украіна, Донская вобласьць і Прыволжа, якія дагэтуль дастаўлялі хлеб Эўропе, цяпер пануе голад. Бальшавікі яшчэ ад восені страшэннымі падаткамі або проста сілай адбіралі ў сялян хлеб, які вывозілі за граніцу, каб за граніцай думалі, што ССРР мае яшчэ чым гандляваць, а за адтрыманыя грошы ўтрымоўвалі савецкую адміністрацыю, чырвоную армію, камуністычную партыю і бальшавіцкую агітацыю за граніцай. У рэзультаце савецкая каса застаецца бяз грошай, савецкі селянін бяз хлеба, а заграніца глухая і нямая на савецкія клічы аб помачы. ССРР падобны да бяздоннай бочкі, якую ніяк нельга напоўніць. Калі паслаць хлеб у ССРР для галодных праз Рыгу або Рэваль, дык ён, павандраваўшы па ССРР, праз Адэсу ізноў вернецца ў Заходнюю Эўропу, як лішак савецкага хле-

ба, але ў рот галоднаму ён не пападзе. І ў тэтакіх абставінах усялякая ахвяра толькі дасьць бальшавіком грошы для пропаганды.

Увесь трагізм палажэньня савецкае ўлады ў тым, што больш ужо няма адкуль браць грошы, без якіх доўга ўтрымацца ня можа ніякая ўлада ў дзяржаве. Усе стараньні бальшавікоў адтрымаць заграничную пазыку не ўдаліся. Расейскі селянін зьяўляецца адзіным, хто плаціць падаткі, сам ён голы і ўмірае з голаду. Гандляваць з заграніцай няма чым, апрача нязначнай колькасьці лесу і скураў. Нерушны запас награбленага золата і дарагіх каменьняў даўно ўжо расплыўся па кішанёх камісараў, а бальшавіцкія концэсіі больш ужо нікога з чужаземных капіталістых ня вабяць. Як прыклад клясычнага ашуканства зьяўляецца тое, што бальшавікі абдурылі Амэрыканскае т-ва Сінклера. Гэтая супалка 3 гады назад адтрымала ад савецкага ўраду концэсію на эксплёатацыю газы на востраве Сахаліне. Супалка ўнясла залог у разьмеры 500.000 залатых рублёў і абавязалася пачаць работы ў 3-х гадовы час. Але супалка не магла пачаць работ дзеля таго, што востраў окупавала Японія, а бальшавікі сказалі, што супалка Сінклера ня выпаўніла абавязкаў і конфіскавалі залог. Апрача таго высьнілася, што бальшавікі гэтыя самыя концэсіі далі японцам. Няўжо-ж пасьля гэтага факту ніхто не спакусіцца на бальшавіцкія абяцанкі?

Не ляпей справа стаіць і з чужаземнай пропагандай, на якую былі патрачаны ўсе расейскія грошы. Нядаўна ў Маскве адбылася нарада прадстаўнікоў III Інтэрнацыяналу, на якім сам Зіноўеў прызнаўся, што «дарога да рэвалюцыі вельмі цярністая». Апошні ўдар бальшавіком зрабіў павадыр харвацкай сялянскай партыі Радзіч, які цяпер сядзіць у вастрозе у Загрэбе. Радзіч, як ведама, езьдзіў у Маскву, зрабіў з бальшавікамі дагавор, у якім абяцаў, што будзе імкнуцца, каб адарваць харватаў ад Сэрбіі і заснаваць на Балканах сялянскую савецкую рэспубліку. За гэта ён адтрымоўваў з Масквы грошы на падтрыманьне пропаганды, значна папсаваў адносіны між двума братнімі народамі, а цяпер, пасьля новых выбараў у Югаславіі, брат Радзіча заявіў у Скупшчыне (парлямэнт) ад імя ўсей харвацкай партыі (69 дэпутатаў), што прызнае монархічны лад у Югаславіі, адмаўляецца ад сэпаратных імкненьняў і пропаганды проці арміі ды аканчальна разрывае зьвязь з ССРР. Гэткім чынам надзеі бальшавікоў на Радзіча ня зьдзейсьніліся. Але абраз бязвыхаднага палажэньня савецкага ўраду быў-бы няпоўны, калі-б яшчэ не ад'значыць, што ўсе натугі Англіі, якая стараецца пагадзіцца з Нямеччынай, імкнуцца да таго, каб утварыць агульны антыбальшавіцкі фронт. Значыцца, ў бальшавікоў няма ніякае надзеі на ўладжаньне адносін з Заходняй Эўропай і Амэрыкай.

*N.*

# ПАЛІТЫЧНАЯ ХРОНІКА.

### У Польшчы.

▭ 30 мінулага сакавіка польскія ўлады адвозілі за савецкую границу двух палітычных арыштантаў Багінскага і Вечаркевіча, якія мелі быць выменены на арыштованых бальшавікамі палякоў у ССРР. Калі цягнік, вёзшы арыштованых, мінуў гранічныя слуўпы паміж польскаю ст. Стоўпцамі і савецкаю — Коласава, дык ст. пшодоўнік па прозьвішчы Мурашка пяцьма стрэламі забіў Багінскага і Вечаркевіча. Мурашка не належаў да канвою, пільнаваўшага забітых і быў дапушчаны ў цягнік стаўпецкім павятовым старастаю Заёнчкоўскім, які Міністрам Унутраных Справаў спынены за гэта ў урадаваньні. У Сойме аб здарэньні зложаны былі інтэрпэляцыі. Вінавайца самасуду паліцэйскі вураднік Мурашка дастаўлены пад сільным канвоем у Вільню і пасаджаны ў вастрог на Лукішках. Справа перадана пракурору віленскага апэляцыйнага суда.

▭ На 2 гэтага красавіка ў Варшаве назначаны зьезд Куратараў усходніх школьных вакругоў па пытаньню аб школах нацыянальных меншасьцяў і аб выкананьні закону 31 ліпня 1924 году.

▭ З Польскае Народнае Партыі „Wyzwolenie“ выйшлі тры сэнатары: Балеслаў Выслаух, д-р Густаў Дабруцкі і Станіслаў Гашынскі. Гэтыя сэнатары разам з беспартыйным дасюль сэнатарам Кржыжаноўскім замерваюцца залажыць новы палітычны клюб.

▭ У гутарцы з супрацоўнікам „Kur. Poran.“ пасол Квапінскі абвяшчае новае праклямаваньне агульнае забастоўкі сельска-гаспадарчых рабочых у Польшчы на дзень 6 красавіка.

### За граніцай.

▭ Выбары прэзыдэнта рэспублікі ў **Нямеччыне,** якія адбыліся 29 мінулага сакавіка, не далі рашучага рэзультату. Агульны лік наданых галасоў 26.812.537, з якіх кандыдат правых Ярэс адтрымаў 10.387.523 галасы, соцыяль-дэмакрат Браун 7.785.678, кандыдат цэнтру Маркс 3.883 676 галасоў, камуністы Тальман 1.869.553, дэмакрат Гэльпах 1.565.136, кандыдат баварскае нацыянальнае партыі Гэльдт 1.227.000, монархісты гэн. Людэндорф 284.471 голас. Апрача таго 34.152 галасы прызнаны няважнымі. Паўторнае галасаваньне назначана на 26 гэтага красавіка.

▭ „Daily News“ паведамляе з **Вашынгтону,** што Форд проектуе масавы вытвар аэростатаў са скорасьцяй 100 міляў у гадзіну. Кожны з іх мае каштаваць каля 1.600 фунтаў штэрл.

▭ З **Афінаў** паведамляюць, што **румынскі** ўрад выказаў перад **Грэцыяй** пажаданьне прылучыцца да грэка-югаславянскага абароннага саюзу.

▭ Паводлуг вестак з **Гэльсінгфорсу, фінскі** сойм прыняў арбітражны трактат, заключаны паміж Фінляндыяй, Эстоніяй, Латвіяй і Польшчай.

▭ У **Прусіі** пры паўторным галасаваньні сойм большасьцю 213 галасоў выбраў пасла Гэпкэра Ашгофа старшынёю рады міністраў.

▭ З **Букарэшту** паведамляюць, што конфэрэнцыя Малое Антанты адбудзецца там у першай палове траўня. Як выказаўся Бэнэш, Чэхаславакія ня мае нічога проці ўваходу Польшчы ў склад Малое Антанты.

# Агляд прэсы.

„Robotnik“ па поваду забойства Багінскага і Вечаркевіча піша:

> ...Драматычны эпілёг справы Багінскага і Вечаркевіча нязвычайна компромітуе польскую Дзяржаву.
>
> Усе польскія партыі выказаліся проці сыстэмы „замены арыштованых“, як абразьлівай для пачуцьця законнасьці і справядлівасьці, а палітычна выгаднай толькі Саветам. Урад заявіў, што цяпер будзе яшчэ выдана толькі 9 арыштованых на замену за 22-х, якіх выдасьць С.С.Р.Р., а пасьля замена спыніцца.
>
> Згода выдаць Багінскага і Вечаркевіча была з боку польскага Ураду бязумоўна прыкрай абмылкай. З таго момэнту, аднак, як гэта сталася, ніякая анархістычная самаволя, ніякае асабістае пачуцьцё,

# Ці варта жаніцца?

*Абразок з фальварковага жыцьця.*

Альжбетка толькі ўчора прыехала на службу ў Залычча. Змовілася на цэлы год да паноў рандатараў Лычкоўскіх, на ўсім іхным і за прыплату.

Мае 17 гадкоў, худзенькая, а чырвоненькая і прыгожая. Яшчэ ня справілася абзнаёміцца з Залыччам. Скрабучы бульбу з цікавасьцю, абглядала кухню старую, аграмадную, з чорнымі сьценамі і закапцелай столью, з вялізнаю расейскаю печкаю ды глінянай падлогаю. Урэшце ўталопіла вочы ў Юзюка-мальца, таксама нанятага на год Ён задам да яе, ля вакна, запіханага пакульлем і кажарынай, сядзеў ды віў вяроўкі.

Альжбетка доўга на яго глядзела але т'кі зачапіла:

— Ці чуеш, малец, даўно тутака жывеш?

Юзюк не адвярнуўся, а прабурчэў:

— Ужо з год будзе, а што?

Альжбетка кінула бульбу скрабаць.

— Дык скажы: ці добра тут жывецца, ці ласкавыя паны?

Юзюк аж адвярнуўся і прыгледзіўся да яе... Падабалася сваей прыгожасьцю, засьмяяўся ён прыхільна.

— А ці-ж ты баішся тутака жыць? — запытаўся.

— Праўда, прызнаюся табе, — пачала Альжбетка, пужліва абглядаючыся, — гэта будыніна мяне страшыць... і... холадна так! — пры гэтым яна ўздрыгнула і лепей абціснула ля сябе кажух.

Юзюк сьмяяўся.

— Нічога, нічога. Трэба толькі прывыкнуць, абзнаёміцца: паны надта добрыя, сама ўбачыш, што, як дадуць табе ўвадвал есьці колькі разоў на дні, ды і працаю цяжкай да лета, блізу што, ня ўстрывожаць цябе, дык весела будзе самой навет і ў гэтай хаце,— дармо, што яна без вакон і з дзіркамі ў сьценах.

— Ня ведаю... — задуманна казала Альжбетка і скрабала далей бульбу.

Юзюк віў вяроўкі...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Прайшло колькі дзён. Альжбетка звыклася з жыцьцём у Залыччы. Асабліва прыгарнулася сэрцам да Юзюка.

Ен меў гадоў дваццаць, быў малец, як трэба. Ен таксама ўпадабаў Альжбетку і... жылі пацíху, вяселячыся ўзаемна.

Аднаго разу селі яны наўпроць сябе паўднаваць. Вялізная гліняная міса стравы і булка хлеба фунтаў з чатырнаццаць, будзіла ў іх ахвоту да яды,—селі ды пачалі.

Юзюк узяў лыжку стравы і праз стол частаваў Альжбетку; тая задорна сваей лыжкаю яго частавала і гэтак мелі-б самі сабе надоўга пацехі, каб ня пані: тая неспадзеванна адчыніла дзьверы з пакояў і... абслупела.

— Што гэта вы робіце? — запыталася. Маўчалі, стылліва пачырванеўшы і ня елі.

— Гэта-ж вы, як дзеці!—казала супакоіўшыся, праз мінюту, пані і, ўзяўшы з кухні, што трэба, схавалася назад у пакоі... Тады толькі порскнулі сьмехам яны. Альжбетка запыталася жартаўліва ў Юзюка:

— Што гэта мы з табой, малец, рабілі?

— Ат, душка, абы было весела,—адказаў ён і ўзяліся абое канчаць астыўшую ўжо ў місцы страву.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Любіў Юзюк памагчы Альжбетцы ў працы: трэба тэй нанасіць судоў дзесяць вады — ён схопіць суды і носіць; Альжбетка, тымчасам, бярэцца за часаньне: распусьціць свае доўгія прыгожыя валасы, як русалка, і чэша іх грабянём доўга доўга.

Юзюк, угледзіўшы гэта, кідае вёдры воб зямлю, падходзіць, шчупае ды гладзіць ветліва ейныя мягкія, як кудзелька, валасы. Сьмяецца Альжбетка яму ў адказ і цешацца абое, і жыцьцё тады выдаецца ім прыгажэйшым.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Сьвятымі днямі паны дазвалялі ім адыйсьціся на цэлы дзень у царкву, ці на кірмаш. Альжбетка, вядома дзяўчына, зьбіралася на гэты спацыр надта доўга.

Аднаго разу Юзюку не да вытрыманьня было чакаць, пакуль зьбярэцца Альжбетка разам ісьці, хапіў яе за сярэдзіну адной рукой, як пярынку і панёс за дзьверы. Баранілася з усіх сіл (бо глядзелі паны) але... на тое-ж ён быў мальцам. Ды няхай сабе!: яна душой яго любіла і цешылася з ягоных пяшчотаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Прайшла зіма, вясна. Зблізілася лета. Юзюк ад самага раньня сьвішча касой па полі, кладучы лостам траву. К паўдню падыходзіць варочаць гэту траву Альжбетка з граблямі і тут пацешна было на іх глядзець: Юзюк даганяў Альжбетку, — тая з усіх ног уцякала... Пасьля доўгіх трудоў удавалася яму схапіць яе за куртку ці за спадніцу і тады цалаваў горача яе ў лоб, ці ў шчаку—як калі папала, бо хоць была задыхаўшыся ад бегатні, а баранілася. Пасьля ізноў браліся за працу.

Ішлі гэтак у вясёласьці дні за днямі... Зблізілася восень.

ніякае абураньне не магло стаць упоперак выкананьню загаду. Асабліва, што тут ішло аб пякучыя міждзяржаўныя справы, аб выкананьне таго, што польскі Урад абавязаўся споўніць для чужога Ураду.

Але вось чалавек, якому было даручана эскортаваць вязьняў да граніцы — старшы пшодоўнік дзяржаўнай паліцыі асьмеліўся ўзяць на сябе — процi Дзяржаве — ролю судзьдзі і ката ў аднэй асобе. Разрашае справу, забіваючы Багінскага і Вечаркевіча.

У той момэнт, як „Robotnik“ пісаў гэтыя словы, яшчэ відаць яму ня было вядома, што забойца Вечаркевіча і Багінскага, паліцэйскі Мурашка, не ўваходзіў у склад эскорты. Як цяпер выясьнілася, ён сеў па дарозе ў вагон, у якім вязьлі арыштованых. Гэткім чынам, справа прымае зусім новы абарот і суліць месца розным дагадкам...

Далей газэта піша:

Гэта — паўтараем — ёсьць вялізная і сумная компромітацыя для польскае Дзяржавы. Гэтая праява дзікага сваявольля з боку ўрадніка, гэтая дзікая замена загаду аб выдачы арыштованага на забойства — ёсьць праява непаслухмянасьці сярод крэсовага чыноўніцтва, ёсьць праявай анархіі, якая напамінае Дзікае поле!

Мы мелі ўжо падобны факт у першыя месяцы істнаваньня Польскае Дзяржавы, калі — 8 студня 1919 г. — жандары забілі ў Лапах высланых з польскай Дзяржавы савецкіх дэлегатаў. Але тады польская ўлада толькі фармавалася ў хаосе і сярод над'звычайных труднасьцяў—мы тады былі напалову ў вайне з Саветамі,—а рэакцыя рабіла ўсё, што магла, на злосьць і насупроць народнаму Ураду. Цяпер мы маем ужо цьвёрдыя дзяржаўныя адносіны—і гэткая праява анархіі!

Дзеялася гэта на Крэсах. Ліхадзейства зрабіў паліцэйскі вураднік! І гэта ёсьць свайго роду ілюстрацыя дзяржаўнай гаспадаркі на крэсах. Там узмацавалася сыстэма адміністрацыйнага сваявольля, там пануець дух беззаконьня і гвалту!

Мы ад'значалі шмат праяваў паліцэйскага разгулу (rozpasania) і зьдзічэньня. І гэта мабыць ня прыпадак, што на гэтым „Дзікім полі“ знайшоўся паліцэйскі, які прызнаў сябе панам і ўладаром адданых пад яго апеку арыштантаў. Вытвараецца нейкі дзікі хаос; адны аплачаны бальшавікамі і застаюцца ў ціхіх з імі адносінах, другія думаюць, што можна і трэба рабіць усялякае ліхадзейства ў адносінах да бальшавікоў або падазронных у бальшавізьме. Толькі няма пачуцьця законнасьці і дзяржаўнасьці...

## Маленькі фэльетон.

### Крытычнае палажэньне.

*(Глядзі № 15 „Грам. Гол.“).*

Я напісаў вялікі загаловак:

**«Дзень беларускае школы ў Закутку»**. (Гэткае мясцовасьці здаецца што няма, але ў сьне, дык усяляк бывае).

А далей нібы вершам палілося:

«Учора таварыства беларускае школы ў Закутку ладзіла вялікі дзень, ахвяраваны справе беларускага школьніцтва; адбылася літэратурна-музычна-вокальная раніца, вулічны збор ахвяраў па ўсім павеце і танцавальны вечар. Дзень гэты быў прытарнованы да агульнага сходу Таварыства. Раніца прайшла пры перапоўненай беларускім сялянствам і *тутэйшаю* інтэлігэнцыяй салі кінотэатру. Прадстаўленьне пачалося прамоваю прадстаўніка Таварыства п. Звончыка аб сучасных заданьнях беларускае школы, пакрытаю гучнымі аплёдысмэнтамі прысутных. Глыбокае ўражаньне зрабіла дэклямацыя маладых вучняў і вучаніц тутэйшае беларускае гімназіі. Са сцэны чуліся найпрыгажэйшыя вершы нашых поэтаў, а вучнёўскі і вучаніцкі хор тае самае гімназіі пад умелым кіраўніцтвам заслужанага працаўніка на ніве роднае культуры п. Зухоўскага выканаў найлепшыя беларускія песьні, з якіх шмат запісаны ў нашым павеце і яшчэ дагэтуль нідзе ніколі не друкаваліся. Уражаньне было настолькі моцнае, што некаторыя старыя сяляне і сялянкі выходзілі з салі плачучы».

Аб агульным сходзе я рашыў напісаць меней, але асобна.

Каб не выглядала ўся справа аднабока, спамянуў, што на агульным сходзе выступаў пасол Разганяйла, які зьяўляецца сябром Таварыства. Прамова яго была толькі прывітальнаю, але ў некаторых месцах мне ўсё такі прыходзілася яго перапыняць (сход-жа агульны вёў я!).

Тут мая рэзалюцыя прайшла аднагалосна. Сьпісак новае управы таварыства таксама.

Vivat Albarusia!

Я раптам прачхнуўся яшчэ раз.

Гляджу, аж я ў сваім пакоі, пачынае цямнець, на другім баку вуліцы відаць праз вакно вялізны шыльд:

„Restauracja. Śniadania, Obiady, Kolacje i różne przekąski”.

З боку подпіс уласьніка ці ўласьніцы гэтага мілага закладу:

„J. Pencherz“.

Я памацаў кішонку ў камізэльцы, налічыў 40 грошай пасьлявеннага серабра і зрабіў вывад, што малавата.

Пачасаў патыліцу і адважна скіраваўся на другі бок вуліцы, туды дзе зіхацеў прынадны шыльд, каб яшчэ адзін раз спрабаваць шчасьця:

Павячэраць на крэдыт.

Ну, ведама, што ў рэстаране мне аканчальна адмовілі, навет няпрыстойна зрабілі выгавар за гэткую неакуратнасьць, якая выцякала з мае неплатаздольнасьці.

І мой рожавы дзеячоўскі сон ня вывеў мяне з крытычнага палажэньня.

Трэ' будзе ўхапіцца цяпер за які-нібудзь «грамадзкі» ўзор.

Годзі мне гэтае палітыкі!

**Звончык.**

*(Канец).*

---

## Навіны ў тры радкі.

— У Амэрыцы ў штаце Такота лясным пажарам, які перакінуўся на прэрыі, сёлы і фэрмы, наробленa шкоды на дзесяткі мільёнаў даляраў. Есьць ахвяры людзьмі.

— Паміж ст. Сакольнікамі недалёка ад Масквы і ст. Мінэральныя Воды стукнуліся паміж сабою пасьпешны й пасажырскі цягнікі. 10 чалавек забіта, 10 ранена цяжка і 16 лёгка.

— У Нямеччыне на р. Вэзэры праваліўся мост падчас праходу па ім войска. 13 чалавек загінула.

— У Аргэнтыне (Паўднёв. Амэрыка) над правінцыяй Санта Фэ праляцеў гураган, які часткаю зруйнаваў буйныя сялібы.

— У 65 вярстох ад Амазару Чыцінскае губэрні (ў Сыбіры) адкрыты новыя залатыя прыіскі.

— З кастрычніка 1924 г. па студзень 1925 у Маскве налічана 20.000 нараджэньняў. Памёрла за гэты час 10.000 душ. У параўнаньні з 1922 г. нараджальнасьць пабольшала на 50%, сьмяротнасьць таксама пабольшала на 14%.

— У Менску засуджаны на расстрэл афіцэр Грыгор'ев, быўшы супрацоўнік Балаховіча.

— У Карэльскай рэспубліцы ўва ўсіх інстытуцыях дзелаводзтва пераводзіцца на карэла-фінскую мову. Для вураднікаў робяцца курсы.

— Вядомы на усёй Украіне Сьвятагорскі манастыр адданы пад санаторыю для рабочых.

---

Яснымі днямі паны наймалі цэлую талаку падзёншчыкаў і сумесна зьбіралася і звазілася ўсё з поля. Дажджлівай пагодай ішлі ў ток малаціць.

Юзюк з Альжбеткай тутака былі: ён падаваў у машыну тое, што Альжбетка яму кідала з высокага стога... У часе працы ён забываўся аб машыне і ўпіваўся вачмі ў ейную стройную, прыгожую фігуру, любаваўся ейнымі паваротамі... Рукамі па прывычцы, сунуў і сунуў снапы аўса, ці жыта ў машыну... Ня чуў, бедны, як колькі разоў машына сваімі зубамі-рагулькамі драбанула яму па руках да крыві... У вачох і думках была толькі яна — Альжбетка. Пан Лычкоўскі заўважыў гэта і, баючыся няшчасьця з Юзюком, адправіў яе каней ганяць па «застаронку»; тады Юзюк супакоіўся і добра працаваў, ня могучы праз сьцяну дагледзіць Альжбеткі.

Носам, скрозь рагатаньне машыны, дачуваў ейны галасок, як крычэла на коні у «застаронку»:

— Но, каб цябе! А ідзі-ж ты!, і дрыжэла крапчэй сэрца ў Юзюковых грудзёх і байчэй і ахватней кідаў ён цалком снапы збожжа ў разяўленую ляпу машыны.

...Зьбліжылася зіма, а там і Каляды; надходзіў канец іхняй службы ў Зарыччы.

Юзюк моцна задумаўся: далёка ў сэрца запала мусіць Альжбетка.

За тыдзень да Каляд, злавіўшы яе адну ля студні, ён сур'ёзна ўзяўся канчаць інтэрас:

— Ці чуеш, Альжбетка? Я хачу пагаварыць з табой, каб паны ня чулі.

— Аб чым? — запыталася яна.

— А вось аб чым,— зачаў ён, — трэба нам жаніцца...

Голас яго дрыжэў...

— Ці варта, толькі!—перабіла Альжбетка.

— А як-жа, варта! Праўда, не на гаспадарку цябе бяру, ня маю сваго кутка, дзе-б мог з табой прытуліцца; ну, гэта не бяда: жыць можна і тут астацца на год, а далей — пабачым.

Змоўк Юзюк, задумаўся—з ім Альжбетка маўчала, пахінуўшы галоўку.

Пані гаспадыня, тымчасам, не магла дачакацца вады. Працярцеўшы з паўгадзіны і думаючы, што з Альжбеткай сталася якое нешчасьлівае здарэньне — мо' тая ў студню бултыхнула, пасьлізнуўшыся, пані чуць не бягом ішла да студні.

— Што гэта вы тутака змаўляецеся? Ці дачакаю я сягоньня вады? — крычэла яна праз мінуту на абаіх.

Юзюк зачарапнуў суды вады і сам тарапліва занёс у кухню.

Пані прычапілася да Альжбеткі:

— Ты ўжо пачала з ім хавацца? Глядзі, вялікай дабраты ад гэтага не спадзявайся!

Альжбетка прагаварылася аб усім пані і тая адразу зьдзівілася ды зьмягчэла.

— Што-ж, жанецеся сабе ў добрую часіну, а тады, хочаце — едзьце дамоў, а хочаце—служэце далей, другі год, абое, — загаманіла пані ветліва. Альжбетка ўздыхнула...

— Ці варта, панечка, нам жаніцца толькі? — казала.

Пані засьмяялася.

— А ўжо-ж, рабеце як лепей, — тут я нічога не дараджу!

На гэтым разыйшліся.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

На Каляды адбыліся шлюбавіны. Ідучы да аўтара, Альжбетка плакала; Юзюк спытаўся, якая прычына гэтаму.

— Мне нешта сумна-маркотна на сэрцы... Мо' гэта не на добрае жыцьцё? адказала яна і, памаўчаўшы, далучыла:

Я ўсё аб тое Юзенька, ці варта нам жаніцца? Нам і так было добра жыць дасюль у Зарыччы...

Юзюк нічога не адказаў і праз мінюту стаялі ўжо ля аўтара — айцец духоўны пачаў лучыць іх навекі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Не дарма сумавала і плакала Альжбетка прад шлюбавінамі: не прайшло й тыдня, як Юзюк за нешта яе пабіў ды з панамі палаяўся, калі тыя за яе ўступіліся; сам адыйшоў кудысь і да вячэры ня было яго.

Дзіўная рэч! Пасьля вясельля ён зусім зрабіўся іншым: страціў міласьць да Альжбеткі; біў яе, чуць ня штодзень, ды часта быў п'яным...

Падабраўшы добрую хвіліну ўвечары, ці ўночы, Альжбетка ласкава дапытвалася:

— Даражэнькі Юзечка! За што ты мяне б'еш бесьперастанку, ад самых шлюбавін? Чаго-ж ты зьмяніўся?

Ен панура кожны раз адказваў:

— Як быў я адзін, дык ня было бяды і клопату мне аб заўтрашнім дні... Цяпер, як маю яшчэ цябе на шыі, ды далей-болей, сямейка памножыцца, ды як успомню, што няма ні кала ні двара свайго—злосьць мяне бярэць на усё ў сьвеце... Пабіў-бы тады і паноў Лычкоўскіх і ўсіх, хто пад рукі пападзецца.. Гэткімі мінютамі, вось табе і пападае!

— Ну, і ці варта было нам тады жаніцца, як гэтак, — ціха ўздыхаючы шаптала Альжбетка.

— Невядома! — многазначна казаў Юзюк і маўчалі абое, дыхаючы цяжка...

**А. В.**

# ПА СЬВЕЦЕ.

### Найцаньнейшы мэдыцынскі дакумэнт на сьвеце.

З Лёндану паведамляюць, што вядомы эгіптолёг праф. Брэстэд знайшоў на адваротным баку вядомага мэдыцынскага папірусу, а зван. Сьміта, што знаходзіцца цяпер у Нью-Іорку і паходзіць з 1600 году да Хрыста, адрывак азаглаўлены: „Як можна старога мужчыну зьмяніць на 20 гадовага юнака?“. Адрывак гэты паказвае: далей, што аўтор ведае навуковую мэтоду бадацьняў. Ведаў, напр., што паляруш аднае часьці цела зьяўляецца пасьледзтвам забурэньняў праціўнае часьці мозгу, альбо што кантроль і розных часьцей цела зьмяшчаецца ў паасобных часьцях мозгу.

Папірус яшчэ дасюль аканчальна нерасшыфраваны з прычыны тэхнічных тэрмінаў, аднак-жа ясна, што ён зьяўляецца найцаньнейшым мэдыцынскім дакумэнтам, з дасюль вядомых людзям.

### 27 разоў жанаты.

З Каіру (Эгіпэт) паведамляюць, што служачы ў мытнай установе тамашні жыхар Хаміс Мухамэд Эль Арабі, якому цяпер 96 гадоў, разлучыўся са сваею 27-ю жонкаю і заявіў, што рыхтуецца жаніцца 28-ы раз. Ліку сваіх дзяцей ён дакладна ня помніць, але іх ёсьць у кожным выпадку больш як 50. Наймалодшаму з іх толькі шэсьць гадоў.

### У Індыі памірае шмат дзяцей.

У індыйскай дзяржаўнай радзе адзін з індускіх прадстаўнікоў Лалубхай Самольдас заявіў аб жахоўна высокім ліку паміраючых у Бомбэі дзяцей. У апошні час памірае 652 душы на 1000 нарадзіўшыхся. Як вытлумачылі дактары, рэзультатам гэтага няшчасьця зьяўляецца тое, што жанчыны, занятыя працаю на ткацкіх фабрыках у характары работніц, даюць сваім маленечкім дзецям опіум, дзеля таго, каб супакойваць іх на час свайго нябыцьця ў хаце, таму што ня маюць магчымасьці даручаць каму-нібудзь нагляд над дзяцьмі ў гадзіны свае фабрычнае працы.

### Колькі можа каштаваць суд аб разлуцы з жонкаю?

Як інфармуюць ангельскія газэты, справа разлукі палкоўніка Дэмістона зьяўляецца найдаражэйшым працэсам на сьвеце за апошнія дзесяць годзьдзі. Сьведкі па гэтай справе яшчэ не дапрошаны і прыгавару няма. Аднак-жа кошты працэсу ўжо можна больш-менш аблічыць. Адзін з супрацоўнікаў вялікае лёнданскае газэты падае, што кошты гэтыя будуць раўняцца 30.000 фунтаў штэрлінгаў (1 фунт штэрлінг. = 10 залатых рублёў). Трэцюю часьць гэтае сумы мусіць заплаціць палк. Дэмістон разам са сваею другою жонкаю паняй Карнарвок, адна трэцяя часьць мусіць быць пакрыта першаю жонкаю палкоўніка.

Большая часьць гэтых грошай пайдзе на гонорар тых адвакатаў, якія заступаюць у судзе палкоўніка і яго першую жонку. Тры адвакаты, якія былі прысутнымі пры разглядзе справы ў працягу першага тыдня, ўжо адтрымалі каля 2.000 фунтаў штэрлінгаў.

Дарагія-ж гэтыя, як відаць, ангельскія суды!

*Памятайце аб дарагоулі друку, а дзеля гэтага не шкадуйце грошай на падпіску, каб ня была спынена вам высылка „Грамадзкага Голасу“!*

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

= **Роспуск гарадзкое рады ў Троках.** З прычыны поўнае бязьдзеяльнасьці і няздольнасьці да творчае працы гарадзкое рады ў Троках, Дэлегат Ураду, на аснове поўнамоцтва ад мін. унутр. справаў, распусьціў цяперашні склад рады. Прадстаўнік Дэлегатуры прыняў справы магістрату і перадаў кіраўніцтва ў рукі камісара на м. Трокі Б. Лаковіча.

= **Падмога безработным.** 30 сакавіка адбылося паседжаньне Камісіі „Odwoławczej“ для справаў выдаваньня падмогаў безработным, пры чым было разгледжана 15 справаў, з якіх вырашана прыхільна 7, адмоўна 4 і адложана да чароднага паседжаньня 4 справы.

= **Сымуляцыя нападу.** Сьледзтвам устаноўлена, што ніякага нападу на Якуба Гітэльсона ў таварным цягніку, аб чым пісалася ў папярэднім нумары нашае газэты, ня было, мела месца толькі звычайная калатня прадпрыемцы з рабочымі на грунце неўрэгуляваньня платы за выгрузку дзерава з вагону.

= **Адсрочка для рэкрутаў.** У зьвязку з маючым адбыцца з 1 траўня да 1 ліпня пераглядам прызыўных, якія радзіліся ў 1904 і інш. г., асобы якія хочуць адтрымаць адсрочку ваеннае службы па сямейных прычынах (53 арт. закону аб агульнай ваеннай службе) альбо навуковых (арт. 57), а таксама якія маюць права на моцы 45 арт. на 1½ гадовы срок службы, павінны падаць адпаведныя прашэньні ў Камісарыят Ураду (пакой № 2) не пазьней як да 1-га траўня с. г.

= **Жыдоўская ўрачыстасьць.** Дзень 31-га сакавіка з прычыны адчыненьня жыдоўскага унівэрсытэту ў Ерусаліме жыдоўскае насяленьне м. Вільні ад'значыла ўрачыстым сьвяткаваньнем.

= **Заграрічныя пашпарты.** Установы, якія выдаюць заграгічныя пашпарты, адтрымалі міністэрскае распараджэньне браць нармальную плату за гэтыя пашпарты ў разьмеры 250 злотых (замест ранейшых 100), а за шматразовыя выезды 750 злот. Ільготныя пашпарты паранейшаму будуць каштаваць 20 і 25 злот.

= **Арышт камуністага.** 31-га сакавіка ў Меставой Салі падчас акадэміі з прычыны сьвята адчыненьня палестынскага унівэрсытэту затрыманы Мордух Бэрштэйн, раскідаўшы камуністычныя адозвы.

# У. С. С. Р. Р.

### Рыначныя патрэбы ў Радавай Беларусі.

Народны камісарыят унутранага гандлю апрацаваў гэткі плян даставы на беларускі рынак валакняных тавараў: прадбачыцца дастаўка вяўнянага матар'ялу па 25 вагонаў у месяц на 10.500.000 рублёў агулам, а таксама сукна і лянных тканінаў на 3.290.000 руб. у месяц. Агульная патрэба ў солі, цукры, газе, серніках, скураных вырабах, махорцы і мэталях азначана на суму 32.585.000 рублёў.

### У Маскве няма хлеба.

30 сакавіка часьць камунальных і ўсе прыватныя пякарні ў Маскве ня выпусьцілі на продаж жытняга хлеба, дзеля таго, што ня было мукі. Пасьпешна перавазімыя ў Маскву хлебныя прадукты паступаюць у распараджэньне асобнае камісіі маскоўскае рады, якая дзеліць іх паміж пякарнямі і гандлёвымі закладамі ў залежнасьці ад штодзеннае патрэбы насяленьня кожнага раёну Масквы.

## Апошнія навіны.

— 2-га гэтага красавіка ў Сойме разглядалася прапазыцыя клюбу „Wyzwolenie“ аб роспуску Сойму і назначэньні новых выбараў. За прапазыцыю назначыць выбары ў кастрычніку галасавала 99 паслоў, проці 228. Проці роспуску выказалася правіца ў тым ліку і партыя „Пяст“.

— Орган нямецкіх соцыяль-дэмакратаў „Vorwaerts“ паведамляе з Масквы, што за апошні час паўсталі непаразуменьні паміж Зіноўевым і Сталіным, які стараецца вярнуць Троцкага да палітычнага жыцьця.

— У **Менску** схаваўся у савецкае консульства ксёндз Усас, які меў быць выменены на забітых Багінскага і Вечаркевіча. Ксёндз заявіў бальшавіком, што ён консульства не пакіне. Пачаліся перагаворы дыплёматычных органаў і, як паведамляе „Роста“, пасьля конфэрэнцыі з народным камісарыятам заграрічных справаў польскае прадстаўніцтва ў Маскве загадала польскаму консулю ў Менску выдаць ксяндза Усаса савецкім уладам. Па выхадзе з консульства ксёндз быў зараз-жа арыштованы. Працэс проці яго мае пачацца ў хуткім часе.

# УСЯЧЫНА.

### Ці муж, ці не?

„Ilustrowany Kurjer Codzienny“ перадае аб гэткім цікавым здарэньні:

Чатыры гады назад у Непрашове выйшла замуж адна вясковая дзяўчына за Язэпа Вэнцлавка 26 гадоў, работніка з Пазнані. Маладая пара, якая пасьля аднаго году дачакалася дваіх блізьнят, жыла ў працягу двух гадоў прыкладна, але здалёк адно ад аднаго, таму што жонка жыла заўсёды пры бацькох а Вэнцлавэк у Пазнані, дзе меў працу і толькі наведваўся да свае жонкі. Два гады назад ён пакінуў прыяжджаць да яе і ад таго часу невядома было, ці ён жыве. Здарылася, што колькі дзён назад зьявіўся ў Непрашове нейкі Францішак Банашак, вандроўны гандляр, прыпадкова надта падобны да Вэнцлавка і таксама, як той, гарбаты. Некаторыя з жыхароў былі пэўнымі, што гэта вярнуўся Вэнцлавэк і запрасілі яго да хаты цясьця, дзе ў ім таксама пазналі згінуўшага Вэнцлавка. Больш таго—Вэнцлаўчыха ўпіралася на тым, што гэта яе ўласны муж. Аднак-жа Банашку ўдалося неяк выбрацца з гэткае цяжкае сытуацыі і, ўцёкшы ад „жонкі“, ён вярнуўся ў Пазнань, але сьледам за ім прыехала і Вэнцлаўчыха ды, сустрэўшы яго на вуліцы, зацягнула ў паліцыю, якая занялася вырашэньнем пытаньня, ці чалавек гэты—сапраўдны Банашак, ці загінуўшы муж Вэнцлаўчыхі? Напэўна ў месьце знайдуцца сьведкі, якія знаюць і аднаго й другога, дык справа вельмі лёгка можа выясьніцца!

### 1 грош ашчаднасьці.

Адна пані, якая прабывае цяпер у Альжыры, палажыла перад вайной ў залічковую касу ў Саноку грошы каля 8.000 каронаў.

Сума, належная гэтай грамадзянцы, ў канцы чэрвеня 1920 году раўнялася 8.385 каронам 28 г. разам з процантамі. Гэтую суму управа касы „перавалютавала“ 1 ліпня таго самага году на маркі ў разьмеры 5.869 мк. 70 фэнігаў і затрымала аж дасюль у гэтых марках. Затым у канцы чэрвеня 1924 году каса яшчэ раз „перавяла“ грошы ўжо на злотыя паводлуг курсу 1.800.000 марак за 1 злоты, што злажыла менш як 1 грош (1 грош раўняецца 18.000 мк.). Але управа касы, ня маючы монэты, якая пазволіла-б выплаціць суму, няроўную навет і паўгрошу, ўпісала на рахунак грамадзянкі суму, „ўзятую са столі“, а ласьне цэлы адзін грош.

Трудна дадумацца да больш арыгінальнай валёрызацыі!

### З Польшчы выэміґравала 400.000 жыдоў.

„Messager Polonais“ зьмяшчае ведамасьці, якія датычаць эміграцыі жыдоў з Польшчы ў працягу апошніх гадоў. Паводлуг гэтых даных, у Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты ў 1921 годзе выехала 90.000 жыдоў, у 1922 годзе 35.000, а ў 1923 годзе 23.000, апрача гэтага за тыя самыя гады выехала ў Аргэнтыну 10.000 жыдоў, у Канаду 14.000 і ў Палестыну таксама 14.000. Агулам за ўвесь вышэйпаказаны час выэміґравала з Польшчы 400.000 жыдоў.

## Паштовая скрынка.

*Канцэлярыя Праваслаўнага Епіскапа ў Горадне.*—10 зл. 80 гр. адтр., газэту вышлем ад № 1.

*Атрахімовіч* Міхэй, *Іванковіч* Піліп—грошы адтрыманы.

*Кавалеўскі* Сымон, — газэту высылаем.

*Станкевічанка* Мар'я, — газэту вам высылаем акуратна. Рабеце спраўкі на пошце.

*Бурдукевіч* Янка, *Макуцэвіч* Я., *Захарэвіч* Я., — пробныя №№ высылаем.



Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей**

Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф № 203.